



амаль 250 гадоў існавала вассальнае Касымаўскае ханства (1452-1681, сучасная Разанская вобласьць). Апроч гэтага, землі Паўночна-Усходняй Русі засяляліся славянамі з Наўгародчыны і Дняпра, якія ассімілявaліся з угора-фінскімі плямёнамі (мардва, весь, меря, мокша, эрзя, мяшчэра, мурома, і іншыя). Так паступова нараджалася маскоўская дзяржава.

У канцы 15-га стагоддзя панаваньне Залатой Арды значна зменшылася. Пачынаючы ад Івана III (1462-1505), які пачаў называцца "великий князь всеа Руси", а пазьней ад Івана IУ (Жахлівага), які атрымаў тытул «царя» (1547), маскоўская дзяржава ўсталявалася і пачала пашырацца на поўнач, усход, і поўдзень. Іван III пачаў з захопу і ліквідацыі Ноўгарадскай Рэспублікі (1478), вывезшы з Ноўгарада ў Маскву «вечевой колокол». Далей былі Цвер (1485), Разань (1521), Казанскае ханства (1552), Астрахань (1556), Вялікая Нагайская Арда (1557), Сібірскае ханства (1582), Пегая Арда (1619). Гэта самы кароткі пералік, бо гісторыя Расіі гэта пастаянная тэрытарыяльная экспансія падчас існаваньня Маскоўскага княства (1263-1547), Рускага царства (1547-1721), Расійскай імперыі (1721-1917), Савецкай Расіі (1917-1922), Савецкага Саюза (1922-1991), Расійскай Федэрацыі (з 1991).

І толькі заходні напрамак на канец 15-га стагоддзя быў яшчэ непасільны для Масквы. Бо там існавала моцная дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). Са згоды Папы рымскага, Інакенція IV, 6 ліпеня 1253 года ў Наваградку каранаваўся кароль літоўскі, Міндоўг. Фактычна, людзі, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Літвы, утварылі моцнае Княства. У склад гэтай новай еўрапейскай дзяржавы ўвайшлі і землі Полацкага і Смаленскага княстваў, этнічна заселеныя беларусамі. Трэба адзначыць, што Полацкае княства, як і Ноўгарадская рэспубліка, заўжды праводзілі самастойную ад Кіеўскай Русі палітыку (9-12-е стагоддзі). Гэта дзяржава, ВКЛ, у адрозненьне ад Маскоўскай, ніколі не зьведала татара-мангольскага прыгнёту і разьвівалася ў зусім іншых умовах. Яна стала яшчэ больш магутнай, утварыўшы ў 1569 годзе разам з Каралеўствам польскім федэрацыю, якая называлася Рэч Паспалітая, што ў перакладзе на сучасную беларускую мову азначае – Садружнасьць, па ангельску - Commonwealth. У Садружнасьці, якая была адзінай дэмакратычнай дзяржавай свайго часу сярод усёй Еўропы, трэцяга траўня 1791 года была прынятая першая ў Еўропе канстытуцыя.

Па разліках (I. C. Pogonowsky, 1987), у 1493 годзе ў Садружнасьці ВКЛ і Каралеўства Польскага жыло 7.5 мільёнаў жыхароў, з іх 3.25 млн палякаў, 3.75 млн рутенаў (г.зн. украінцаў і беларусаў), і 0.5 млн літоўцаў. У 1618 годзе, з пашырэньнем тэрыторыі Рэчы Паспалітай паводле Дэўінскай дамовы, у Садружнасьці было ўжо 12 млн жыхароў, з іх палякаў – 4.5 млн, украінцаў - 3.5 млн, беларусаў – 1.5 млн, літоўцаў – 0.75 млн, прусаў – 0.75 млн, яўрэяў – 0.5 млн, лівонцаў – 0.5 млн. У 1717 годзе, пасьля страты часткі тэрыторый, колькасьць насельніцтва Садружнасьці зьнізілася да 9 млн, прыблізна 4.5 млн складалі палякі, 1.5 млн – украінцы, 1.2 млн – беларусы, 0.8 млн – літоўцы, 0.5 млн – яурэі, 0.5 млн – іншыя. Такім чынам, у 1717 годзе каля трэці насельніцтва ВКЛ складалі украінцы, каля 30% беларусы, і каля 18% літоўцы.

Часы росквіту Садружнасьці (Двух Народаў) прыпалі на пачатак 17-га стагоддзя, бо далейшае яе развіццё было спынена з Усходу – Масква рушыла на захад. Што мы мелі з таго часу?

1. Трынаццацігадовую вайну (1654-1667) з Маскоўскім царствам, пасля якой на нашых землях, землях ВКЛ, знікла адна трэцяя частка насельніцтва і пачаўся заняпад Садружнасьці.

2. У канцы 18-га стагоддзя (1795 год) Садружнасьці зусім не стала, бо была захопленая і падзеленая паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Прычым нашы землі адышлі пад руку расійскай імператрыцы Кацярыны II.

3. Садружнасьць знікла, але беды на гэтым ня скончыліся: вынікам далейшых рэпрэсій ў Паўночна-Заходнім Краі ў 30-х гадах 18-га стагоддзя была страта прывілеяў беларускай шляхтай, зьнішчэньне уніяцкай царквы, да якой адносілася каля 70% беларускага насельніцтва, забарона дзеньня Статута ВКЛ і забарона беларускай мовы.

4. Дзяржаўнасць на тэрыторыі Садружнасьці ВКЛ і Польскага каралеўства перастала існаваць аж да 1918 года.

5. Далей было станаўленьне дзяржаўнасьці (БНР, 1918; БССР, 1919) і перыяд адраджэньня ў 30-х гадах 20-га стагоддзя, які скончыўся рэпрэсіямі ў дачыненьні да сьвядомай беларускай эліты, развал СССР, дэкларацыя незалежнасцы Беларусі (1991), моцны перыяд адраджэньня беларускай нацыі ў 1991-1994, пасля якога да гэтага часу працягваюцца рэпрэсіі і негатыўныя адносіны нео-савецкай улады да ўсяго беларускага.

6. Да таго ж дадаюцца - уступленьне Беларусі ў Арганізацыю дзяржаў калектыўнай бяспекі (АДКБ), спробы аднаўленьня саюза Расіі і Беларусі, эканамічны ціск з боку Расіі – усё гэта стварае нервовыя абставіны ў дачыненьні да ўсталяваньня і далейшага будаваньня сапраўды незалежнай і суверэннай беларускай нацыянальнай дзяржавы.

На сёньня, эканамічныя адносіны Беларусі з Расіяй і Еўрасаюзам пакуль што збалансаваныя. Так, па звестках Міністэрства замежных спраў беларускі экспарт у 2011 годзе у Расію склаў 13,7 млрд. даляраў (34% ад усяго беларускага экспарта), а ў краіны Еўрасаюза (ЕС) ў параўнаньні з 2010 годам практычна падвоіўся і склаў 15,7 млрд. долараў (прырост да ўзроўню 2010 года – 8,1 млрд.). Таваразварот Беларусі з Расіяй у 2011 годзе склаў 38.6 млрд. даляраў (44.9% ад усяго аб'ёма беларускага знешняга гандлю), а з краінамі ЕС за 10 гадоў – з 2001 да 2011 – павялічыўся ў дзесяць разоў, склаўшы ў 2011 годзе 24,4 млрд. даляраў. Такім чынам, доля Расіі ў эканоміцы Беларусі, калі ацэньваць па экспарту і агульнаму таваразвароту, не перавышае 45%.

Аднак ніхто не возмецца абсалютна адкінуць страхі і гарантаваць немагчымасьць расійскай інвазіі (ваеннай, эканамічнай) у Беларусь. Варта нагадаць, што Расійская імперыя прырастала і пасьля захопу Садружнасьці, у 19-м стагоддзі – Каўказам (1859-1878) і Сярэдняй Азіяй (1854-1885), у 20-м стагоддзі ў часы існаваньня СССР – тэрыторыяй Заходняй Беларусі і Украіны і краінамі Прыбалтыкі (1939-1940), пасля 2-й сусьветнай вайны краінамі Усходняй Еўропы, і нядаўна Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй (2008).

Добравядомы лідэр ЛДПР яшчэ нядаўна заклікаў, каб рускі салдат памыў ногі ў Індыйскім акіяне. Не дзіўна, што 70% палякаў нават у 1994 годзе, ужо пасьля развалу Берлінскай сьцяны, баяліся ваеннай пагрозы з боку Расіі, і толькі ўступленьне Польшчы ў НАТО ў сакавіку 1999 года крыху супакоіла польскую грамадскасьць. Тым не менш, супраць магчымай Расійскай ваеннай інвазіі ў Беларусь сведчаць наступныя факты, якія базуюцца на:

1. статусе нашай краіны, як дзейнага сябра Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

2. на непарушнасьці дзяржаўных граніц у Еўропе паводле Заключнага Акта аб Бяспецы і Супрацоўніцтву ў Еўропе (Хельсінкі, 1975);

3. на гарантыях бяспекі, дадзеных Беларусі Расіяй, Вялікабрытаніяй і ЗША, ў сувязі з Дамовай аб нераспаўсюджваньні ядзернага ўзбраеньня. У дадатковым мемарандуме, падпісаным 5 сьнежня 1994 года, у прыватнасьці, гаворыцца, што:

   - Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацьвярджаюць Рэспубліцы Беларусь сваё абавязацельства ў адпаведнасьці з прынцыпамі Заключнага акта АБСЕ паважаць незалежнасьць, суверэнітэт і існуючыя граніцы Рэспублікі Беларусь;

   - Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацьвярджаюць сваё абавязацельства ўстрымліівацца ад пагрозы сілай або яе прымяненьня супраць тэрытарыяльнай цэласнасьці або палітычнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраеньні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасьці са Статутам Арганізацыі Аб’яднаных Нацый;

   - Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацьвярджаюць Рэспубліцы Беларусь сваё абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта Нарады па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе ўстрымліівацца ад эканамічнага прымушэньня, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленьне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду.

У сувязі з гэтым мемарандумам можна як жарт успрымаць прапанову Прэзідэнта Пуціна ў 2005 годзе аб далучэньні Беларусі да Расіі шасьцю губернямі. Дарэчы, урад Беларусі ніяк афіцыйна не адрэагаваў на гэта, значыць дзесьці, падысподам, такая небяспека не выключаецца (напрыклад, праз арганізацыю чарговага рэферэндума), г. зн. пагроза суверэнітэту краіны, як ні дзіўна, можа зыходзіць з самой Беларусі. Такія версіі (напрыклад, пра “шапку Манамаха”) ужо абмяркоўваліся раней у сродках масавай інфармацыі. Ніхто і ніколі не даруе ўдушэньня свабоды, знішчэньня Мовы і гандлю незалежнасьцю і суверэнітэтам.

Але нават калі б уявіць, што гэта далучэньне губернямі магчыма, трэба каб была выканана яшчэ адну умова – каб у самой Расіі было адменена права нацый і народаў на самавызначэньне, і паўсюдна былі ўведзены губернатарствы. Апошняе ўвесь час прапануе лідэр ЛДПР, сп. Жырыноўскі. Здаецца ў Расіі ўжо скасаваны дзьве ці тры нацыянальныя вобласьці. Да таго ж уведзены 8 федэральных акругаў і 11 эканамічных раёнаў, якія нівеліруюць нацыянальную прыналежнасьць насельніцтва у гэтых адміністратыўных падзелах. Але ці пагодзяцца Татарстан і яшчэ 20 нацыянальных рэспублік Расійскай Федэрацыі, у якіх пражывае больш за 20 мільёнаў чалавек, ператварыцца ў губернатарствы? Калі ўзгадаць прыклад Чачні, і рэальную сітуацыю сёння на Каўказе, то гэта малаверагоднае рашэньне (хіба што зноў “па савецку” правядуць рэферэндумы).

Прэзідэнт Пуцін 20-га сьнежня 2012 г. падчас прэс-канферэнцыі на пытаньне журналісткі з Татарстана аб магчымасьці новага тэратэрыяльнага падзелу РФ прама не адказаў, а пачаў з таго, што раней у Расіі не было нацыянальна-тэрытарыяльных утварэньняў, што былі губерніі і што ўсё функцыянавала нядрэнна, што падзел на гаспадарчыя суб'екты мае сэнс, але вырашэньне нацыянальнага пытаньня заўжды адчувальная праблема і павінна

вырашацца паводле законаў самімі суб'ектамі ці галасаваньнем на рэферэндуме, ці рашэньнем адпаведнага парламента. У той жа час ім 19 сьнежня 2012 года падпісаны Указ «О стратегии государственной национальной политики Российской Федерации на период до 2025 года», дзе, напрыклад, канстатуецца, што ў РФ выкарыстоўваецца 277 моў і дыялектаў, у дзяржаўнай сыстэме адукацыі выкарыстоўваецца 89 моў, з іх – 30 у якасьці моў навучаньня, 59 – у якасьці вучэбнага прадмета.

Асаблівасьці нацыянальнага складу Расійскай Федэрацыі сведчаць таксама супраць магчымасьці стварэньня панславянскай дзяржавы з удзелам Украіны, Беларусі. Але ў той жа час Вы не знойдзеце і ніякіх сігналаў падтрымкі ў будаўніцтве і ўмацаваньні новых нацыянальных дзяржаў, у прыватнасьці Беларусі і Украіны, як з боку дзейнай расійскай улады, так і з боку любых расійскіх лібералаў-дэмакратаў. Для іх могуць быць дрэннымі Лукашэнка ці Януковіч, але яны спяць і бачаць свае шавіністычныя сны аб зноў жа пашыранай расійскай імперыі, няхай сабе і за кошт суседніх славянскіх народаў. Ім выгадней бачыць гэтыя краіны васаламі, але не свабоднымі, незалежнымі нацыянальнымі дзяржавамі.

Нягледзячы на істотную розніцу ў развіцьці Беларусі і Расіі (на працягу шасьці вякоў, з сярэдзіны 13-га і да канца 18-га стагоддзяў, мы жылі у розных дзяржавах, як і да гэтага перыяду ня мелі нічога агульнага), гістарычна нам наканавана быць суседзямі. У эпоху глабалізацыі, і рэальна ацэньваючы эканамічныя стасункі паміж Расіяй і Беларусю, якія працягваюцца з часоў Савецкага Саюза, можна канстатаваць, што альтэрнатывы супрацоўніцтву з усходнім суседам, пры збалансаванай палітыцы на другіх напрамках, не праглядаецца. Адзінае, што гэта супрацоўніцтва мусіць быць раўнапраўным і ўзаемавыгадным.

**Асноўныя спасылкі**

1. Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры. Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 7-11 верасьня 1998 года). 200 год. “Беларускі кнігазбор”, 1998, 448 стар. http://kamunikat.fontel.net/pdf/albaruthenica/11.pdf

2. Абдулаева Г. Россией правили татары. *Bad News, 2011, март 5.* http://badnews.org.ru/news/rossiej_pravili_tatary/2011-03-05-6917

3. Гарифуллин И. Русские фамилии тюркского происхождения. «Югра», март 2012. http://www.ugra-start.ru/ugra/mart-2012/772

4. Халиков А. 500 русских фамилий булгаро-татарского происхождения. Казань, 1992 год. Электронная версия - Ш.Л.Таналин. При перепечатке не забудьте дать на нас ссылку. Екатеринбург, 2004 год. http://tatural.ru/500/500_rustat_family.htm

5. Bockowski D. *Na zawsze razem. Białostocczyzna i Łomżyńskie w polityce radzieckiej w czasie II wojny światowej (IX 1939 – VIII 1944).* Neriton, Instytut Historii. 2PAN005. 2009, pp. 116-117.

6. Memorandum on Security Assurances in Connection with the Republic of Belarus’ Accession to the Non-Proliferation Treaty, signed in Budapest on 5 December 1994. http://www.bielarus.net/archives/2006/12/24/999

7. Pogonowski I. Based on 1618 population map (p.92, p.115), 1618 languages map (p.119), 1657-1667 losses map (p.128) and 1717 map (p.141) *Poland a Historical Atlas*, Hippocrene Books, 1987.

 *ISSN 2291-4757*

# Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. III. Моўнае пытаньне

Пётра Мурзёнак

*Ключавыя словы: стан мовы, мадэлі існаваньня мовы*

Агульная мова, якой карыстаецца насельніцтва дзяржавы, з'яўляецца адной з галоўных характарыстык нацыі. У значнай ступені, менавіта ад вырашэньня гэтага пытаньня, ці загавораць беларусы па беларуску, залежыць не толькі канчатковае станаўленьне беларускай нацыі і магчымасць рэальнага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, але і суверэнітэт РБ. Сёньня гэтае пытаньне для многіх беларусаў вельмі балючае і крыўднае.

Старабеларуская пісьмовая мова ВКЛ трансфарміравалася ў сучасную літаратурную мову ў канцы 19-га пачатку 20-га стагоддзяў. Гэта магло б адбыцца крыху і раней, аднак у Садружнасьці беларуская шляхта карысталася польскай мовай, мовай дамінуючай культуры, і хіба што дазваляла сабе размаўляць на тутэйшай мове з сялянамі. А апошнія два стагоддзі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў гарадах, а пазьней і ў мястэчках запанавала руская мова. Але нават двух кароткіх перыядаў беларускага адраджэньня (20-я – 30-я гады і 1991-1994 гады мінулага стагоддзя) было дастаткова, каб беларусы пачулі прыгажосьць і ўсьвядомілі адметнасьць нашай Мовы.

Аднак сёняшні стан беларускай мовы нават значна горшы, чым пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ў 1991 годзе, і выклікае вялікую трывогу. Нашы суседзі і гістарычныя партнёры Польшча і Літва цвёрда ўсталяваліся як сучасныя нацыі; Беларусь, знаходзячыся пад ціскам Расіі (мова, культура, масс-культура), мае вельмі кепскую сітуацыю, што да самаідэнтыфікацыі як нацыі. Нацыі-імперыі ў мінулым выкарыстоўвалі палітыку «афіцыйнага нацыяналізму: мад'ярызацыю, япанізацыю, русіфікацыю», каб узаконіць свае прэтэнзіі на нацыянальнае права і ідэнтычнасьць, і прыхаваць разыходжаньні паміж нацыямі і каралеўскімі дынастыямі (B. Anderson). Нейкім чынам, русіфікацыя, якая пачалася 200 год таму назад, працягваецца на Беларусі да гэтага часу.

Ці адчувае сябе беларус беларусам мацней, чым гэта было 20 год таму назад? Калі не, то што за насельніцтва пражывае на тэрыторыі Беларусі? У чым можна назіраць праявы беларускай нацыі – у масавым выдавецтве беларускай літаратуры, у развіцьці беларускага кіно, у беларускім школьніцтве і студэнцтве? Якія вынікі ў станаўленьні і развіцьці сучаснай беларускай нацыі мы маем за апошнія 20 год?

1. Развіцьцё беларускай мовы – мовы карэннай нацыі, праўдзівае паданьне старажытнай гісторыі і культуры не з’яўляюцца прыярытэтам дзяржавы.

2. Дзяржаўныя чыноўнікі і абсалютная большасць гарадскіх жыхароў ужывае толькі рускую мову, што вядзе да вынішчэньня рэштак беларускасьці ў краіне.

3. У 2009 г. асноўнай мовай зносінаў 70% беларусаў назвалі расейскую мову, беларускаю мову ўжывае дома ўсяго 23% насельніцтва. Доля беларусаў, якія Мову назвалі роднай значна знізілася, з 73.6% у 1999 г. да 53.2% у 2009 г.

4. У Мінску толькі 2% школьнікаў навучаецца ў беларускіх класах, а па ўсёй краіне толькі 19%. Паводле Таварыства беларускай школы ў Магілёве, у адзінай на ўвесь абласны

цэнтар беларускай клясе, на роднай мове навучаецца толькі адна дзяўчынка (Радыё "Свабода", 27 сьнежня 2012). Тое ж самае прыблізна назіралася ў Гародні перад пачаткам 2012-2013 навучальнага году.

5. Выкладаньне гісторыі ў школах і універсітэтах базуецца на кароткай гістарычнай памяці, звязанай з Вялікай Айчыннай вайной і акупацыяй Заходняй Беларусі Польшчай. Старажытная і сярэднявечная гісторыя краіны рэвізавана па савецкаму тыпу (а раней падавалася па расейскаму тыпу).

6. У савецкія часы, у 1970 годзе, агульны тыраж беларускамоўных кніг складаў 9 мільёнаў асобнікаў альбо 40%, рускамоўных — 16 мільёнаў (60%) (Радыё «Свабода», 13 сьнежня 2007). У 2012 годзе, за 9 месяцаў, агульны наклад быў амаль такім жа, 25.3 мільёны, але на беларускай мове было надрукавана толькі 3.4 мільёны кніг, альбо 13.5%, і 81.5% - на рускай мове (В. Ругайн, ЕўраРадыё, 13.11.2012). Г.зн., што доля кніг на роднай мове знізілася за апошнія 40 год у тры разы?!

7. Патрыятычныя сілы не маюць агульнай стратэгіі, скіраванай на супольную працу ў станаўленьні беларускай нацыі. Адсутнічае нават жаданьне крытычна ўспрымаць вынікі сацыялагічных апытаньняў праведзеных НДІСД праф. Манаева. Спробы сцвярджаць, што дзякуючы актыўнай дзейнасьці апазіцыі адбыўся байкот апошняй выбарчай кампаніі (хаця б у Мінску), ні чым іншым як самападманам не з'яўляюцца. Да таго ж, улада мае сёньня моцны рэпрэсіўны апарат і, пасьля 19 сьнежня 2010 года, патрыятычныя сілы апынуліся разгромленымі. Шмат хто быў вымушаны пакінуць Радзіму. Нацыянальна-патрыятычныя сілы адціснуты аўтакратамі неа-савецкага тыпу далёка на край будаўніцтва дзяржавы, і не нацыянальнай дзяржавы, а дзяржавы цывільнай.

8. Інфармаванасьць насельніцтва Беларусі, за выключэньнем афіцыйнай прапаганды, вельмі нізкая:

   - У краіне пры насельніцтве ў 9.5 мільёнаў чалавек практычна адсутнічаюць незалежныя СМІ, а тыя што яшчэ выжываюць выдаюцца невялікімі накладамі (Народная Воля – 28.000, Новы час – 7.000, Наша Ніва – 6.000, часопіс "Дзеяслоў" – 1.000) і балансуюць паміж папярэджаньнямі быць зачыненымі і пажаданьнямі друкаваць дазволеную інфармацыю.

   - Электронныя медыя, Хартыя-97, Радыё "Свабода", і незалежнае тэлебачаньне "Белсат" вымушаны працаваць з-за мяжы.

   - Незалежныя сайты ў інтэрнэце наведваюць толькі 3% беларусаў, а чытаюць незалежныя газеты – не болей 1% беларусаў (В. Івашкевіч, *Хартыя 97, 2 кастрычніка 2012*).

Хто вінаваты ў такой сітуацыі - дзяржава ці адзін асобны чалавек? Безумоўна вінаваты. А самі беларусы? Вінаваты - і таксама безумоўна. Але пры належнай моўнай дзяржаўнай палітыцы гэтага пытаньня не ўзнікала б. Грамадзяне і чыноўнікі Беларусі станоўча прынялі Закон аб мовах (1990), але затым, з вяртаньнем кіраўнікоў нэа-савецкага тыпу, падняўся гвалт аб прыцясненьні правоў рускамоўнага насельніцтва. Праз рэферэндум праціснулі другую афіцыйную мову, рускую. Здаецца, у абоіх выпадках дзяржава павінна была браць на сябе адказнасьць за зьберажэньне Мовы, але ў апошнім выпадку "гэтыя клопаты" сталі проста знішчальнымі для Яе.

І справа не ў недахопе сродкаў для развіцьця Мовы, а ў нежаданьні кіруючых дэнацыяналізаваных сіл гэта рабіць. Добры пачатак у перыяд адраджэньня (1991-1994) не атрымаў развіцьця ў апошнія 20 год. Дзяржава не спрыяе развіцьцю беларускасьці, а калі якія прызнакі і ёсьць, то яны маюць дэкларатыўны характар. У сучаснай Беларусі няма нацыянальнага лідэра, няма прапаганды і падтрымкі грамадскага настрою, што да будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. А без падрымкі дзяржавы гэта навогуле зрабіць ці магчыма. Тыя праграмы і сродкі, якімі карыстаюцца афіцыйныя улады, відавочна недастатковыя для утрыманьня неабходнага ўзроўню беларускасьці ў краіне. І гэта тычыцца не толькі Мовы. Прывядзём яшчэ адзін прыклад: не без падтрымкі ўлады (нават на ўзроўні Адміністрацыі Прэзідэнта) чатыры гады таму назад у раённым цэнтры Паставы «аднекуль з неба» з'явіліся казакі для патруляваньня вуліц і навядзеньня парадку. Заўважце, гэта адбылося нават значна раней, чым у Маскве, дзе гэта ініцыятыва распачалася ў мінулым 2012 годзе. У Беларусі былі эпізоды, зьвязаныя з дзейнасьцю прышлых казакаў, але каб тут завяліся аседлыя казакі, як гэта характэрна для Расіі ці Украіны, то гісторыя гэтага не адзначыла.

Што рабіць у такой сітуацыі? Аднымі заклікамі «Давайце размаўляць па беларуску» многа не даб'ешся. Гонар тым людзям, якія ў такой кепскай сітуацыі штосьці робяць для вырataваньня Мовы. Шмат робіць Таварыства Беларускай Мовы. Паводле сп. А. Трусава (Радыё “Свабода”, 27 сьнежня 2012), да чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 года афармленьне чыгуначнага вакзалу ў Берасьці будзе зроблена на беларускай мове, і менавіта дзякуючы намаганьням Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ). Перад гэтым, вынікам дзейнасьці ТБМ было выданьне Правіл дарожнага руху, а таксама мытных дэкларацый па беларуску. Здавалася б, непрыкметныя праекты робіць ТБМ, выпускае каляндарыкі, маркі, змагаецца за выкарыстаньне Мовы ў дзяржаўных установах. Але гэтай працы проста няма цаны! На жаль гэта ўсё робіцца не высілкамі дзяржавы, што ў краіне з двумя афіцыйнамі мовамі было б натуральна, а высілкамі грамадскай арганізацыі. Як нядаўна на Радыё «Свабода» сказаў старшыня ТБМ Алег Трусаў, ён падзяляе кіруючае чынавенства пароўну, 50 на 50; у паловы прыхільнае стаўленьне да беларускай мовы, у паловы — абыякавае; «а сярод іх ёсьць і адкрытыя ворагі беларушчыны».

Адносіны да роднай мовы з боку дзяржавы ў Беларусі найгоршыя з краін-суседзяў. Пытаньне аб мове не стаіць у Літве, Польшчы і ў Расіі. У Латвіі латышскую мову абараняюць ад рускай, на Украіне за родную мову дэпутаты б'юцца ў Радзе; у Беларусі ж – актыўная дзяржаўная палітыка ў дачыненьні да зьберажэньня Мовы адсутнічае.

Прэзідэнт Назарбаеў заявіў у сьнежні 2012 года (газета”Наша Ніва”, 14 сьнежня 2012), што Казахстан да 2025 года пярэйдзе на лацініцу; паводле яго слоў, гэта «паслужыць не толькі развіцьцю казахскай мовы, але і ператворыць яе ў мову сучаснай інфармацыі». Пры гэтым, ён таксама заклікаў беражліва ставіцца да расійскай мовы і заявіў, што «валоданьне ёй з’яўляецца гістарычнай перавагай». І ў Казахстане ніякага ляманту з боку Расіі пакуль не назіраецца. Пры тым, трэба адзначыць, што за перыяд з 1989 г. да 2009 г. доля тытульнай нацыі ў Казахстане павялічылася з 39.7% да 63.1%, а доля іншых нацыянальнасьцяў зьменшылася: рускіх – з 37.8% да 23.7%, узбекаў – з 2.0% да 2.9%, украінцаў – з 5.4% да 2.1%, татараў – з 2.0% да 1.3%, беларусаў – з 1.1% да 0.4%.

Цяжка ўявіць лёс беларускай мовы. Але відавочна, што ён будзе незайздросны без падтрымкі дзяржавы і будзе залежыць ад шэрагу ўмоў і часу. Якія варыянты можна мець?

1. Калі сітуацыя з Мовай будзе існаваць у такім жа выглядзе пры той самай ўладзе на

працягу хаця б аднаго пакаленьня, і калі яе не абараняць, то Мова фактычна зьнікне (што значна павялічыць пагрозу з'яднаньня з рускамоўнай тэрыторыяй у рамках нейкіх саюзаў). Балансаваньне ўрада паміж Усходам і Захадам прывяло да таго, што ў 2012 годзе Беларусь зноў павярнулася на ўсход, і ў гэтым зацікаўлена і спрыяе гэтаму ўсё тая ж расійская імперыя. І хоць мэты ўрада Беларусі і Расіі могуць быць розныя, але канчаткова, у доўгатэрміновым кантэксьце, абедзьве сілы працуюць на знішчэньне нацыі.

2. Другая мадэль – на працягу якіх дваццаці год беларуская мова будзе зьберагацца толькі ў нацыянальна-сьвядомых асяродках і мець абмежаванае карыстаньне («ірланцкі варыянт»). Дамінуючай будзе, як і зараз, руская мова. Ці магчыма будзе ўтрымаць беларускую культуру пры такім варыянце – гэта вялікае пытаньне.
3. Трэцяя мадэль – сітуацыя будзе такая ж кепская, але пры новай палітычнай волі з'явіцца магчымасьць аднаўленьня беларускай мовы («чэскі варыянт»).
4. Чацьвёртая мадэль - праз выбары ці рэвалюцыю - у бліжэйшы час малаверагодная. Надзея на тое, што зьмена сітуацыі магла б адбыцца пры чарговых выбарах (2001, 2006, 2010), не спраўдзілася. Некалькі спробаў патрыятычных сіл падняць насельніцтва кожны раз за некалькі месяцаў да надыходзячых «справядлівых» выбараў не знайшлі падтрымку. Спадзявацца на наступныя выбары, гэта значыць чакаць чарговых закладнікаў, якім, да прыкладу, быў раней сп. А. Казулін, а цяпер сп. М. Статкевіч, і шмат іншых.

Для даведкі: ірланцкая нацыя сёньня ўяўляе сабой дзяржаву з насельніцтвам 4.6 млн (2011), ірланцамі сябе лічуць 86.9%, але ірланцкую, першую афіцыйную мову, назвалі роднай толькі 11% жыхароў, ды і то толькі дзякуючы аднаму раёну краіны. Большасьць жа насельніцтва (94%) карыстаецца другой афіцыйнай мовай, англійскай.

Чэская мова на канцы 18-га - пачатку 19-га стагоддзя была на грані выміраньня, аднак пасьля ўтварэньня новай дзяржавы, Чэхаславакіі, пасьля 1-й сусьветнай вайны, дзякуючы намаганьням нацыянальнай эліты, чэшская мова была адноўлена. У Чэхіі жыве 10.5 млн (2009), з іх 94% - чэхі, і 4% - славакі. Афіцыйная мова – чэская.

Урэшце, якой бы мадэлі не прытрымліваца, нацыянальна-патрыятычным сілам застаецца рабіць максімальна магчымае, каб зберагчы Мову і ўтрымаць беларускасьць. Надзея на будучыню ёсьць, бо ўжо пайшло другое тысячагоддзе ад першых знакаў нашай дзяржаўнасьці – а мы існуем. І хаця апошнія два стагоддзі беларускі народ паспытаў моцны гуманітарны прэсс, яшчэ застаецца крытычна-мінімальная праслойка нацыянальных сіл, і гэта дазваляе спадзявацца, што зьмены калісьці адбудуцца.

На працягу апошніх двух стагоддзяў вядома незлічоная колькасць фактаў, якія сьведчаць аб спробах суседзяў, Польшчы (у міжваенны перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі) і Расіі, асіміляваць адну з самабытнейшых этнічных груп на Зямлі, беларускую (Л. Лыч, 1995; В. Швед, 2002; М. Крыжаноўскі, 2008). Спробы гэтыя працягваюцца да сёняшняга дня. Прывядзём пару вядомых фактаў:

«*Зраўняць Заходні край ва ўсіх адносінах з унутранымі вялікарускімі губернямі*» - такую задачу меў «Заходні Камітэт», утвораны імператарам Мікалаем І пасьля ўдушэньня паўстаньня 1830-1831 года;

«Ч*то не доделал русский штык — доделает русская школа и церковь*» - так казаў генерал-губернатар Паўночна-заходняга краю М. Мураўёў пасьля ўдушэньня паўстаньня 1863-1864 года;

«*Ни черта не понятно!*»«*Чем быстрее все мы будем разговаривать по-русски, тем быстрее построим коммунизм*» - так рэагаваў М. Хрушчоў на прамову К. Мазурава на беларускай мове у 1959 годзе падчас сьвяткаваньня 40-годдзя БССР.

«*Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут ничего делать, кроме как разговаривать на нем, потому что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык - бедный язык. В мире существует только два великих языка - русский и английский»* - з выступленьня *А.* Лукашэнкі на сесіі Гомельскага гарсавета, 1 сьнежня 1994 г. ("Народная газета", 1 лютага 1995 года). Вось такая эвалюцыя.

Зьберагчы тое, што маем – гэта задача мінімум для нацыянальных сіл, задача максімум – несьці веды пра гісторыю, традыцыі, Мову ў народ цяпер, толькі тады можна спадзявацца на посьпех, і, магчыма, нават выйсьці на «чэскі варыянт» у будучыні.

**Асноўныя спасылкі**

1. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2.— Мн., 1940.

2. Крыжаноўскі М. Жывая крыніца ты, родная мова. Народная Воля, 1 мая 2008, №65-66.

3. Лыч Л. Русіфікацыя. Беларусь: Энцыклапедычны даведнік. 1995, с. 630.

4. Швед В. Эвалюцыя расейскай урадавай палітыкі адносна земляў Беларусі (1772-1863 г.). Гістарычны Альманах. 2002, Т.7.

# Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. ІУ. Высновы

Пётра Мурзёнак

Сёньня няма добрых падстаў сцьвярджаць, што існуе моцная беларуская нацыя. Хаця такія характарыстыкі нацыі як тэрыторыя, прыналежнасьць да этнічнай беларускай групы прысутнічаюць, але іншыя – карыстаньне Мовай, усведамленьне сябе беларусамі - моцна аслаблены ці нават адсутнічаюць. Нягледзячы на адносна вялікую долю грамадзян, якія лічаць сябе беларусамі, што з'яўляецца добрым грунтам для нацыянальнага будаўніцтва, беларуская нацыя выглядае ў цэлым ня моцнай, бязмоўнай, прыдушанай расійскай культурай, без значных праяў нацыянальнай волі і гонару. Доля нацыянальна-сьвядомых людзей у агульнай масе насельніцтва даволі тонкая і пакуль дастатковая толькі для таго, каб мінімальна падтрымліваць ідэі беларускасьці, але недастатковая каб зьмяніць сьвядомасьць усяго грамадства. Час ідзе, губляецца тэмп і пакаленьне, якое яшчэ пачувае сябе беларусамі. Такім чынам, можна казаць пра тое, што пры любых абставінах для рэальнага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў бліжэйшым часе няма сур'ёзнай асновы.

Таксама відавочна, што немагчыма збудаваць нацыянальную дзяржаву без удзелу дзяржаўных устаноў. Пакуль няма прыкметаў таго, што ў сёняшнім урадзе Беларусі ёсьць нейкія праграмы па развіцьцю беларускасьці. Развіцьцё беларускасьці, нягледзячы на некаторыя дэкларатыўныя заявы, не з'яўляецца рэальнай дзяржаўнай палітыкай. Калі зьмены не адбудуцца на працягу 10-20 год, то грамадства будзе ўяўляць сабой дэнацыяналізаваную цывільную дзяржаву. Русіфікацыя, якая пачалася 200 гадоў таму назад, працягваецца на Беларусі да гэтага часу. Сучасны урад Беларусі, эксплуатуючы усходні вектар зьнешняй палітыкі, заснаваны на нео-савецкай ідэалогіі, пакідае ў загане развіцьцё сваёй нацыі, вынікам якой з'яўляецца ўсё большая ассіміляцыя насельніцтва РБ у расійскую палітыку і культуру. Фактычна, Беларусь ідзе па шляху пабудовы рускамоўнай цывільнай дзяржавы, што ў сваю чаргу можа скончыцца рэальнай стратай суверэнітэту праз далучэньне да іншых рускамоўных тэрыторый. Ці магчыма зьберажэньне і развіцьцё беларускай культуры ў рускамоўным асяроддзі – гэта пытаньне даволі рытарычнае і недарэчнае.

Нашы суседзі, Латвія, Літва за 20 год зрабілі вельмі шмат у нацыянальным будаўніцтве і ў многім могуць быць для нас прыкладам, як і Польшча, ад якой маем істотную падтрымку. Нацыянальнае будаўніцтва сталася магчымым нават у такіх краінах як Латвія і Казахстан, дзе доля этнічных тытульных нацый была крытычна малой. Украіна вырашае амаль тыя ж самыя праблемы, што і Беларусь у пытаньнях развіцьця дзяржаўнасьці і нацыі. Ад таго, які будзе вынік вырашэньня існуючых супярэчнасьцяў паміж Украінай і Расіяй будуць часткова залежаць і зьнешнія умовы існаваньня РБ. Амаль усе краіны-суседзі, за выключэньнем Расіі, спачуваюць і дапамагаюць у станаўленьні дэмакратыі ў Беларусі, спрыяючы такім чынам стварэньню новых магчымасьцяў для разьвіцьця нацыі. У Расіі, на жаль, ні ва ўрадзе, ні сярод ліберал-дэмакратаў, няма сіл, якія б шчыра падтрымалі самастойнасьць Беларусі. Дваццаць два гады таму назад беларусы нарэшце вырваліся з-пад 200-гадовай апекі Расійскай імперыі і атрымалі рэальны шанец вярнуцца да дзяржаўнасьці, якую яны мелі на працягу некалькіх стагоддзяў. Але як і раней, з боку Расіі ўсё яшчэ зыходзіць небясьпека для беларускай незалежнасьці. І хоць ёсьць шэраг умоў і фактаў, якія не дазваляюць думаць





пра сцэнарый захопу краіны, але абсалютна выключыць такую верагоднасьць ніхто не можа. Тое ж самае можна сказаць і пра эканамічную незалежнасьць і самастойнасьць нягледзячы на сбалансаванасьць на гэты час беларускай эканомікі паміж Расіяй і астатнім сьветам.

Відаць, нацыянальныя лідэры вымушаны прызнаць, што магчымасьць рэальнай пабудовы нацыянальнай дзяржавы нават у аддаленым часе застаецца пакуль што толькі тэарэтычнай. З пункту гледжаньня Мовы праз нейкі час нацыянальная дзяржава магла б усталявацца па «ірланцкаму тыпу» ці па «чэскаму тыпу». Але і тэарэтычная магчымасьць не можа быць рэалізавана ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, бо патрабуе часу і сур'ёзнай кансалідацыі і асьветы насельніцтва РБ. І гэта не залежыць ад таго, хто ёсьць пры ўладзе, бо немагчыма гэтыя задачы ажыцьцявіць у кароткі тэрмін. Гэта значыць, што трэба распрацоўваць як каротка-, так і доўгатэрміновыя праекты, скіраваныя на дасягненьне патрэбных для збудаваньня нацыянальнай дзяржавы зьмен. І гэта не толькі Мова. Нацыю не збудаваць, калі беларусы не будуць ведаць даўнішнюю гісторыю свайго народа: што Адам Міцкевіч гэта іх нацыянальны паэт, якім яго лічуць таксама палякі і літоўцы, што беларусы могуць ганарыцца многімі выбітнымі землякамі як мінулага, так і сучаснасьці, якіх несправядліва прысвоілі суседзі і сарамліва пра гэта маўчаць і не хочуць падзяліцца, што мы адметная, старажытная нацыя, здольная самастойна вырашаць свае жыцьцёвыя праблемы, як роўная і вольная сярод другіх нацый.

Нацыянальнай эліце застаецца зберажэньне тых каштоўнасцей, якія ўжо напрацаваны, іх узбагачэньне і доўгатэрміновае, на працягу хаця б аднаго пакаленьня, укараненьне ў народную сьвядомасьць. Тое што робіцца ў гэтым напрамку на сёняшні дзень - гэта вельмі добра, але недастаткова. Думаецца, што важную ролю ў стварэньні інфармацыйнай прасторы можа адыграць беларуская дыяспара. Без асьветніцкай працы сярод большасьці беларускага насельніцтва тэарэтычная магчымасьць будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы рэалізавана быць ня можа.

# Белорусская идентичность: Ключевые факторы и спорные моменты

Галина Тумилович, кандидат исторических наук, кавалер Ордена Академических Пальм (Франция)

*Ключевые слова*: *Беларусь/ Белоруссия, идентичность, нация, государство, белорускость, окраины, перекресток, граница/пограничье, дебелорусификация*.

## Белорусская идентичность: миф или реальность? Современный теоретический дискурс

В рамках современных социальных наук белорусская тематика не представляется больше неактуальной, на первый план при этом выступает недостаток известности работ белорусских исследователей за рубежом, а не отсутствие интереса к ним. В этой связи заметим лишь, что до сих пор нет ни одной масштабной публикации белорусских авторов на английском или французском языке (За исключением, пожалуй, работ Я. Запрудника, который, как известно живет и работает в США (например, Y. Zaprudnik, Historical Dictionary of Belarus, 1998 – Г.Т). Что касается проблематики исследований, то одной из наиболее актуальных проблем в последнее время неизменно остается белорусская идентичность, интерес к которой первоначально явился следствием, глубинным эффектом социально-политических потрясений начала 90-х годов в Европе в целом, положивших конец существованию биполярного мира, в рамках которого физической и символической границей долгие годы являлась Берлинская стена.

Вместе с тем белорусская идентичность на сегодня оспаривается и как реальность, и как концепт, т.е. до сих пор нет ни единого подхода, ни общепринятой точки зрения – от самого определения идентичности до факта ее существования. Бесспорно, в определенной степени это связано с самими терминами «идентичность», «нация», определение которых уже само по себе «является проблемой» (T. Chopin, Lettre 147, Fondation Robert SCHUMAN, le 19 octobre 2009). Наряду с этим задачи исследования усложняют особенности и «отклонения» белорусского случая: прежде всего, сосуществование двух «национальных» языков и особая «отмеченность» менталитета белорусов наследием прошлых исторических периодов. Относительно русского языка, можно утверждать, что он не только «сосуществует», но, скорее, играет доминирующую роль во всех проявлениях общественнной жизни, за исключением, может быть, культуры и политического дискурса определенной части оппозиции. С другой стороны, белорусам тяжело абстрагироваться от советского прошлого, освободиться или переосмыслить то, что произошло в предыдущие исторические периоды. Все это делает «белорусский случай» или «белорусский пример» плохо вписывающимся в теоретический дискурс об идентичности, затрудняет его понимание Западом, где в свое время наибольшее понимание находили понятия, связанные с «государствами-нациями», отличающимися стабильностью и однородностью ко времени формирования нации.

Среди факторов, играющих роль в исследовании и понимании идентичности, не следует также сбрасывать со счетов и влияние глобализации, изменяющей сами понятия (концепты) границы и национальной общности. Наконец, данная проблематика вписывается в контекст европейского строительства/конструирования, характеризующегося, по терминологии Ю. Хабермаса, «постнациональным» подходом,

согласно которому национальная идентичность и национализм выступают чуть ли не синонимами. Следствием последнего является то, что европейские федералисты боятся столкновения с национализмом при «отыскании» или «утверждении» той или иной *единичной* национальной идентичности в рамках Европы, это разрушает выстроенную ими картину представления о единой Европе.

Таковы, на наш взгляд, факторы первого порядка, которые следует иметь ввиду на современном этапе исследования идентичности в целом, и белорусской идентичности, в частности. При этом не следует забывать, что вопрос об идентичности это действительно вопрос «мобилизующий», по определению уже, к сожалению, ушедшего белорусского философа Владимира Фурса (В. Фурс, 2008), и в связи с этим неслучайно, что к нему апеллируют не только исследователи, но и «идеологи» того или иного национального проекта. (Это очень существенное замечание, которое применимо ко всем национальным случаям. Подобное «сетование» прослеживается, в частности, у Наталья Яковенко по поводу украинской идентичности – Н. Яковенко, 2011).

Что касается конкретных подходов и концепций при изучении идентичности, то их можно свести к трем основным: *идентичность как данность*, *идентичность как конструкция* и, наконец, подход, предусматривающий объяснение каждого отдельного случая в его историческом контексте. Таким образом, для последнего нет национальной идентичности как таковой, существует лишь процесс ее формирования в каждом отдельном случае, т.е. речь идет об *идентификационных процессах.*

Несомненно, что исследователи, исходя из различных концепций, по-разному отвечают на вопрос о существовании белорусской идентичности. Так, например, в русле преобладающего подхода «идентичности как конструкции» белорусский случай может быть резюмирован таким образом: поскольку в Беларуси еще не сформировалась нация (в смысле «модерная нация»), то не может быть и речи о существовании национальной идентичности. Таким образом, данная концепция, во-первых, предусматривает неразрывную связь понятий нации и идентичности, т.е. речь всегда идет об идентичности ***национальной***; во-вторых, и нация, и идентичность создаются, конструируются, не являются чем-то данным, в отличие например, от этнического происхождения или языка. Данный подход стал преобладающим в силу проявления все большей несостоятельности других концепций. Так, например трактовка самой нации в этимологическом смысле, опирающемся на происхождение, рождение людей, не выдерживает в реальности критики. (С подобной точки зрения можно характеризовать лишь совсем отдельные нации, среди которых – приведем хрестоматийный пример – называют, прежде всего, а порой и только евреев (частности, J.Joseph, Language and Identity, 2004). Подавляющее же большинство современных наций не вписываются в схему «единства по происхождению». Таким образом, в данном контексте на современном этапе развития социальных наук исследователи различают *этническое* и *национальное*.(Такое признание различия само по себе не ново, просто оно получило теперь новую наполненность и переживает очередной всплеск развития – Г. Т.).

Трактуемая с точки зрения конструкции нация позволяет на самом деле определенную свободу выбора. Так, ничто не мешает, к примеру, живущим в эмиграции этническим белорусам , которые знают свое происхождение, отождествлять себя не с белорусской нацией, а, скажем, с русскими. (*Данный пример приводится, скорее, как исключение из правил в плане самоопределения белорусов в эмиграции и лишь с целью иллюстрации относительной свободы выбора национальной идентичности – Г.Т.*) В большинстве

случаев здесь идет речь, конечно, не о национально сознательных белорусах, а о тех, кто покинул бывший СССР, и, по сути, это - *бывшие* ***советские*** люди (с точки зрения их национальной принадлежности, их идентичности, а не только менталитета, как принято думать – Г. Т.). Эти бывшие советские люди в силу известных причин (Советского Союза давно нет, к тому же многие из них искренне верят, что в них не осталось ничего советского, и, наконец, для более легкого восприятия их другими) продолжают именовать себя русскими, ассоциируя себя порой подсознательно или сознательно с титульной нацией государства, которого больше нет. Не имея достаточно источников, все же беремся оптимистично утверждать, что с течением времени (один из факторов состоит здесь в том, что Беларусь уже более 20 лет выступает как суверенное государство) таких людей становится все меньше и меньше. Таким образом, речь идет, - повторяем, о возможности свободного выбора национальной (а не этнической) идентичности. Можно продолжить этот ряд рассуждений и пояснений с точки зрения того, что русскоязычные для людей «из-вне» чаще всего ассоциируются с русскими. Однако, это выходит уже за рамки вопросов данной работы.

Подводя итог нашего краткого обзора концепции «нация и идентичность как конструкция», заметим еще раз, что в рамках известных нам дискуссий по вопросу белорусской идентичности подавляющее большинство высказываний, умозаключений и выводов – вольно или невольно, прямо или косвенно - исходят именно с точки зрения данного подхода, что говорит о его несомненном преобладании; все остальные концепции выглядят при этом устаревшими, обветшалыми, чуть ли не «неприличными». Таким образом, идея нации и идентичности как котструкции занимает безусловно лидирующее положение и, как таковая, выглядит уже как что-то общеизвестное, на что ссылаются, к чему апеллируют практически в любом историко-политологическом – и не только - дискурсе. И, наконец, в качестве показательного, очень яркого примера исследования, выполенного согласно лучшим канонам вышепредставленного подхода наибольшего внимания на сегодня - на наш взгляд - заслуживает работа Т. Снайдера о реконструкциии наций в Восточной Европе (исследование охватыват Беларусь, Литву, Польшу и Украину (Т. Снайдер, Рэканструкцыя нацый.., 2010).

Что касается других концепций, приобретающих все более маргинальное значение, то здесь следует обратиться прежде всего к концепции, исследующей «идентичность как данность». Сторонники последней ставят во главу угла, прежде всего, этнокультурные аспекты, среди которых главенствующее положение занимает язык, к которому примыкает несомненная значимость географического фактора, выраженного понятием этнически белорусской территории.

Начнем с экскурса в проблему с белорусского языка. Нет, пожалуй, для белоруса более уязвимого и тонкого вопроса, чем вопрос о месте и роли родного языка. В связи с этим невозможно найти аудиторию - будь то на научном, общественно-политическом, культурно-мировоззренческом или просто бытовом уровне, где бы не ставился этот вопрос. Причем, часто он выступает предметом ожесточенных дискуссий и непримиримых разногласий, где в пылу эмоциональной патетики оппоненты скатываюся до уровня взаимных упреков и оскорблений. Можно сказать, что здесь, как ни в каком другом аспекте, проявляется то, что мы назвали бы «уязвленная белорускость», которая находит отражение в современных исследованиях. Позволим себе один пример, который, на наш взгляд, действительно отражает ситуацию в общественном мнении белорусов по этому вопросу.





Почти три года назад (в мае 2010) совместными усилиями двух белорусских интернет-порталов: TUT.BY и BUDZMA.ORG был организован опрос на тему «Быть белорусом – что это значит?», в рамках которого одним из вопросов был вопрос о том, **является ли белорус, не говорящий по-белорусски белорусом**? В этом проекте в качестве интервьюируемых приняли участие несколько десятков людей, представляющих различные сферы деятельности (преимущественно, однако, журналисты, научные работники, преподаватели вузов и работники в области культры, а также отдельные спортсмены, певцы и даже одиозная Л. Ермошина, глава Центральной избирательной комиссии - Г.Т.). Итоги ответа на этот вопрос, как и следовало ожидать, были очень различными: от категорического «нет» до однозначно принимаемого «да». Наиболее интересными – в силу разных причин нам представляются буквально несколько ответов, среди которых: «Так (беларус без ведання мовы беларус – Г.Т.). Але дрэнны беларус». (П.Свердлов, 2010). В плане экспрессивности высказывания нельзя не привести ответ Олега Латышонка, для которого «беларус без ведання мовы беларус.., але лічу, што гэта калецтва» (О.Латышонок, 2010).

Среди специалистов-белорусоведов авторы проекта обратились к А. Лукашанцу, директору Института института языка и литературы имени Я. Коласа і Я Купалы, который отметил, что « у сучасным шматмоўным і шматкультурным свеце праблема моўнай ідэнтыфікацыі з’яўляецца вельмі складанай, але адначасова і дастаткова ўмоўнай. Зразумела, мова выступае вельмі важным і істотным, (але не адзіным) фактарам нацыянальный адметнасці і ідентыфікацыі. Таму беларус без ведання мовы застаецца беларусам, калі адчувае сябе часткай гэтай нацыянальна-культурнай супольнасці. З другога боку, абсалютна відавочна, што... без ведання сваей мовы значная частка нацыянальнай спадчыны для яго закрытая» (А. Лукашанец, 2010).

(Обращаясь здесь в целом к вопросу о белорусской идентичности, уточним, что на сегодня проведение такого рода публичных дискуссий, организованных СМИ, не наблюдается. – Нам, во всяком случае, не удалось этого заметить. Порой можно встретить обсуждение связанной с этим проблематики в рамках проведения круглых столов с очень ограниченным количеством участников (4-5 человек) из числа политологов и культуролов (Г.Т.) К сожалению, в связи с этим возникает предположение, что на самом деле доминировавшая и раньше официальная версия коллективного белорусского «строительства» окончательно подавила проявление любого иного подхода, в той или иной степени институциализированного и сформулированного для достаточно широкой публики. Если это действительно так, то трудно даже представить дальнейшие последствия, потому что на самом деле нельзя не согласиться с В. Фурсом, который еще пять лет назад утверждал, что действительной проблемой является не тот факт, что национальный проект в Беларуси слаб или неразвит, а очевидное доминирование официальной «национальной» версии (В. Фурс, там же) – Г.Т.)

Однако, вернемся к проблеме роли белорусского языка как одного из основополагающих факторов национальной идентичности.

Прежде всего, приведем здесь некоторые численные показатели, возможно, хорошо известные читателю. Во-первых, как известно, по итогам всеобщей переписи 1999г. белорусский язык в качестве родного назвали **73,7%** населения Беларуси, однако в каждодневной практике его использует только **36,7%**, т.е.немногим более трети населения. Во-вторых, - и здесь не столько языковые, сколько общецифровые показатели численности: по данным на 8 сентября 2010 г. за 10 последних – на момент подсчета лет - белорусов

